ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 1 (1535) | Аўторак, 3 студзеня 1961 года | Цана 4 кап.

## Услаўляць веліч нашага часу

1961 год пачаўся. Наша краіна перайшла новы рубеж у сваёй няўхільнай хадзе наперад — уступіла ў трэці год вялікай па сваіх планах і здзяйсненнях сямігодкі.

Сустракаючы навагодняе свята, савецкія людзі падсумоўвалі вынікі працы ў 1960 годзе. Яны, гэтыя вынікі, радуюць. Народная гаспадарка краіны на вялікім уздыме. Як адзначаецца ў навагоднім віншаванні Цэнтральнага Камітэта КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і Савета Міністраў СССР, грандыёзныя планы сямігодкі выконваюцца і перавыконваюцца: за першыя два гады сямігодкі выпушчана прамысловай прадукцыі прыкладна на 12 мільярдаў рублёў больш, чым было вызначана планам.

У гэтай лічбе — натхнёная праца ўсіх савецкіх народаў. Дастойны ўклад у выкананне сямігодкі ўносяць і працоўныя Беларусі. Прамысловасць рэспублікі па аб'ёму валавой прадукцыі значна апераджае планавыя заданні: у 1960 годзе яна дасягнула ўзроўню, прадугледжанага кантрольнымі лічбамі на 1961 год. Дзесяткі новых буйных прадпрыемстваў выраслі на беларускай зямлі за першыя два гады сямігодкі. Асвоен выпуск больш чым чатырохсот новых відаў машын, станкоў, прыбораў. Дасягнуты сур'ёзныя поспехі ў далейшым развіцці сельскай гаспадаркі.

1960 год прынёс добрыя здабыткі і ў развіцці беларускай савецкай культуры. Пісьменнікі, дзеячы мастацтва, работнікі культурна-асветных устаноў настойліва працавалі над ажыццяўленнем задач, пастаўленых перад імі партыяй, народам.

Значнымі творамі ўзбагацілася беларуская літаратура. У 1960 годзе выйшла кніга «Трывожнае шчасце» Івана Шамякіна, апублікавана другая кніга рамана «Вясеннія ліўні» Уладзіміра Карпава, аповесць «Жураўліны крык» Васіля Быкава, паэтычныя зборнікі «Далёка ад дому» Петруся Броўкі, «Нью-йоркскія малюнкі» Пімена Панчанкі, шэраг цікавых аповесцей, літаратуразнаўчых і крытычных прац, зборнікаў апавяданняў і вершаў. Адметнай рысай мінулага літаратурнага года з'яўляецца таксама тое, што апублікавана многа цікавых твораў маладых аўтараў.

Плённа працавалі майстры выяўленчага мастацтва. Вынікі іх працы падведзены на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы, якая вызначаецца багаццем жанраў і тэм.

Рад цікавых пастановак ажыццявілі нашы тэатры. Багатым, напоўненым творчымі пошукамі і работай над павышэннем выканаўчага майстэрства, было ў мінулым годзе жыццё нашых музычных калектываў. Іх рэпертуар папоўніўся змястоўнымі нацыянальнымі творамі.

Шмат новых твораў з'явілася ў беларускай музыцы. Опера «Калючая ружа» Ю. Семянякі, пастаўленая Тэатрам оперы і балету, — адна з радасных з'яў у тэатральна-музычным жыцці рэспублікі.

Многа жыццёва важных тэм адлюстравалі творы літаратуры і мастацтва, напісаныя летась. У іх знайшлі ўвасабленне вобразы і рэвалюцыйнага мінулага нашага народа, і гераічнай барацьбы з захопнікамі, але асноўнае месца займае тэма нашай сучаснасці. Гэта асабліва відаць, напрыклад, на цяперашняй рэспубліканскай мастацкай выстаўцы. Наватары прамысловасці, людзі, што змагаюцца за ўздым сельскай гаспадаркі, — вось асноўныя героі твораў аб сённяшнім жыцці краіны. Праблемы паказу новых рыс у характары будаўніка камунізма, выхавання маладога пакалення, адлюстравання канфліктаў паміж новым і старым — вось што займае галоўную ўвагу пісьменнікаў і дзеячоў мастацтва.

Адзначаючы ўсё тое станоўчае, што характэрна для мінулага года ў жыцці нашай літаратуры і мастацтва, нельга абыходзіць недахопы. Мастацкі ўзровень многіх нашых твораў нізкі, ім не хапае глыбіні пранікнення ў жыццё, яркасці ў абмалёўцы вобразаў сучаснікаў. Мала яшчэ ў нас твораў аб сучаснасці, якія б вызначаліся высокім майстэрствам.

А культурны ўзровень народа расце, павышаюцца яго патрабаванні да твораў мастацтва і літаратуры. Цяпер, калі наша краіна ўступіла ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма роля літаратуры і мастацтва ў выхаванні новага чалавека асабліва ўзрастае. Адсюль — тыя высокія і пачэсныя задачы, што стаяць перад пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі, артыстамі.

М. С. Хрушчоў у сваім вядомым праграмным выступленні «За цесную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа» падкрэсліваў:

«...Галоўная лінія развіцця заключаецца ў тым, каб літаратура і мастацтва былі заўсёды непарыўна звязаны з жыццём народа, праўдзіва адлюстроўвалі багацце і разнастайнасць нашай сацыялістычнай рэчаіснасці, ярка і пераканаўча паказвалі вялікую пераўтваральную дзейнасць савецкага народа, высакароднасць яго імкненняў і мэт, высокія маральныя якасці. Вышэйшае грамадскае прызначэнне літаратуры і мастацтва — узнімаць народ на барацьбу за новыя поспехі ў будаўніцтве камунізма».

Змагацца за высокую ідэйнасць і мастацкае майстэрства — гэта значыць змагацца за сапраўды вялікае мастацтва камунізма. Народ чакае ад сваіх пісьменнікаў, дзеячоў тэатральнага мастацтва больш добрых твораў, якія б вызначаліся багаццем думак, высокай мастацкасцю, выклікалі б гарачы водгук і хваляванне ў тых, для каго яны створаны.

Камуністычная партыя штодзённа клапоціцца аб далейшым уздыме мастацтва сацыялістычнага рэалізму. Адказваючы на гэтыя клопаты, дзеячы літаратуры і мастацтва, верныя памочнікі партыі, імкнуцца сваёй творчасцю актыўна ўдзельнічаць у камуністычным будаўніцтве.

1961 год пачаўся. Адсвяткаваўшы навагоднюю ўрачыстасць, з гордасцю адзначыўшы свае дасягненні, савецкі народ поўны рашучасці і далей нястомна памнажаць поспехі ў выкананні сямігодкі. Ажыццяўленне плана трэцяга года сямігодкі ўзніме Савецкую краіну на новую вышыню. Савецкія людзі ўпэўнены ў сваіх сілах, у сваёй будучыні. Будзе забяспечаны далейшы ўздым сацыялістычнай індустрыі і сельскай гаспадаркі, новы росквіт навукі і культуры, рост народнага дабрабыту. «Камуністычная партыя і Савецкі ўрад, — гаворыцца ў навагоднім віншаванні ЦК КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і Савета Міністраў СССР, — і ў наступаючым годзе будуць гэтак жа паслядоўна, настойліва і ўпорна змагацца за новыя поспехі ў развіцці савецкай эканомікі і павышэнні дабрабыту нашага народа, за ўмацаванне міру, дружбы і супрацоўніцтва паміж усімі народамі зямлі».

1961 год прынясе нам выдатныя здабыткі. Разам з народам за гэта будуць змагацца і дзеячы літаратуры і мастацтва. У 1961 годзе яны дадуць народу шмат новых твораў, якія ўслаўляць веліч нашага часу.

## ДУЖЫЯ РУКІ

Прыгадаем, як іншы раз жыхары наракаюць на будаўнікоў: патрэскаліся сцены, рассохлася падлога, не зачыняюцца дзверы.

І вось мы на сходзе жыхароў у доме нумар 78, што на праспекце імя Сталіна ў Мінску. Жыхары не крытыкуюць, не папракаюць будаўнікоў, а, наадварот, ад усяго сэрца, шчыра і задушэўна дзякуюць ім.

Разам з жыхарамі новага дома сядзелі хлопцы і дзяўчаты з будаўнічай брыгады. Іх было больш 30 імянінnікаў у добрым сэнсе гэтага слова. Брыгадзір Станіслаў Ярашэвіч сядзеў у прэзідыуме. Да глыбіні душы ўсхвалявала яго ўвага тых людзей, для якіх стараліся ён і яго сябры.

Станіслаў Ярашэвіч ужо некалькі год працуе на будоўлях Мінска. Пачынаў працоўны шлях, як сам кажа, з вучнёўства. Тут, на сходзе, калі жыхары падаравалі яму новенькі фотаапарат, Станіславу прыгадалася яго першая размова з начальствам.

Да таго часу Ярашэвіч прайшоў ужо вучнёўскі стаж і сваімі дужымі маладымі рукамі ўклаў не адну сотню тысяч цаглін. На будоўлях даўно прыкмецілі светлавалосага стройнага хлопца, які не любіў хвіліны сядзець без справы. Неяк да яго падыйшоў начальнік упраўлення і запытаў:

— Стась, як жыццё?

— Ды быццам нічога, таварыш начальнік.

— А працуецца як?

— Вось тут горш.

— У чым справа? — здзівіўся начальнік.

— Вельмі многа ўдзельных княстваў.

— Не разумею.

— Здаецца, ясна. Што ні брыгада — удзельнае княства. У нас жа іх па пальцах не пералічыць.

— Вось ты аб чым. Што ж ты прапануеш?

— Ёсць у мяне думка. Дазвольце зайсці.

— Нават прашу. І сёння ж.

— Абавязкова буду.

У час гутаркі з начальнікам і галоўным інжынерам прысутнічалі партыйныя і камсамольскія работнікі ўпраўлення. Прапанова маладога будаўніка хоць спачатку і здавалася простай, але на самай справе была вельмі цікавай і важнай. Станіслаў Ярашэвіч раіў будаўніцтва дома даручаць не некалькім брыгадам, як было да гэтага часу, а адной — комплекснай, якая працавала б ад закладкі фундамента да ўстаноўкі дзвярных замкоў.

Комплексная брыгада аб'ядноўвае муляраў, цесляроў, тынкоўшчыкаў, механізатараў, наогул усіх, хто будуе.

Прапанову Ярашэвіча сустрэлі паразнаму. Адны з ухвалай, другія стрымана ці, нават, адмоўна. Довадаў і даволі абгрунтаваных было дастаткова як у першых, так і ў другіх.

Якраз у гэты час пачыналася будоўля вялікага дома і начальства вырашыла даручыць работы комплекснай будаўнічай брыгадзе. На чале брыгады паставілі Станіслава Ярашэвіча. І не толькі таму, што ён быў аўтарам смелай прапановы. У маладога будаўніка ўжо немалы вытворчы вопыт.

Будаўніцтва вялізнага гмаха на праспекце ператварылася ў своеасаблівую вопытную лабараторыю. Жылы дом быў уведзен у эксплуатацыю на дваццаць дзён раней вызначанага тэрміну, і ўжо гэта з'явілася радасцю для жыхароў. Дамагліся і эканоміі ў 3 з лішнім тысячы рублёў.

Вынік відавочны. Комплексную брыгаду ў поўным складзе перавялі на новы аб'ект, яшчэ большы па памерах. Распачыналі будаваць жылы дом на плошчы імя Калініна, на 112 кватэр, з памяшканнем для ўнівермага на першым паверсе.

... Да Ярашэвіча на будоўлю я прыйшоў вельмі рана і спытаў:

— Дзе брыгадзір?

— Паглядзіце на другім паверсе, яго цесляры клікалі.

Станіслаў — патомны будаўнік. Бацька яго ўсё жыццё працаваў мулярам, праўда, зусім у іншых умовах, у белапанскай Польшчы. Усё жыццё марыў ён пабудаваць прыгожы будынак для людзей. Не давялося здзейсніцца яго мары. Клаў ён у памешчыцкіх маёнтках печы, а працы па сэрцу так і не меў.

Маленства Станіслава прайшло ў вёсцы Камень. Мабыць, гэтую назву яна атрымала ад таго, што ў ёй было шмат муляроў. Але сам Ярашэвіч навучыўся рамяству не ў роднай вёсцы, а ў Мінску, дзе яго першымі настаўнікамі сталі выдатныя беларускія муляры Арцюхоў і Мацвеенцаў.

У пісьменніка, у жывапісца, у скульптара — і гэта зусім натуральна — ёсць творы, найбольш блізкія і дарагія яму. Ёсць чым ганарыцца і чалавеку працы. Станіслаў Ярашэвіч уклаў сваю сціплую працу ў многія лепшыя новабудоўлі Мінска. Гэта — будынак універмага, Палац культуры прафсаюзаў.

Усё вышэй і вышэй узнімаецца васьміпавярховы дом, дзе цяпер працуюць «комплекснікі» Ярашэвіча. Гэта Дзмітрый Барашаў, Мікалай Юркевіч, Паліна Лук'яненка, Аркадзь Ламака. Муляры, тынкоўшчыкі, кранаўшчыкі... Дружныя, працавітыя, актыўныя маладыя людзі. Яны дамагліся звання брыгады камуністычнай працы. Амаль у кожнага члена брыгады ёсць сумежная прафесія. Калі па якіх важных прычынах не выйшаў хто на працу з комплекснай, дык заўсёды ёсць яму замена. Прастоі на будаўнічай пляцоўцы, дзе працуе Станіслаў Ярашэвіч са сваімі памочнікамі, ліквідаваны.

Дружба ў калектыве заўсёды і ўсюды. І на працы, і на вучобе, і ў быце. Яна адчуваецца ў кожным учынку маладых будаўнікоў.

Калі Станіславу Ярашэвічу Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР прысвоілі ганаровае званне заслужанага будаўніка БССР, гэта было свята для ўсёй брыгады. Тут радасць аднаго — радасць усіх, гора ці бяда таксама лягчэй пераносяцца чалавекам, калі ён у добрым, дружным калектыве. 34 чалавекі — гэта ж немалая сям'я. Збіралася брыгада і за вясельным сталом. Разам праводзяць таварышаў служыць у рады Савецкай Арміі. Разам ходзяць у тэатр, у цырк, на лекцыю. Усё — разам.

А вучоба? Брыгадзір ездзіў пераймаць вопыт буйнапанельнага будаўніцтва і потым сам пачаў навучаць іншых майстэрству будоўлі па сучасных метадах. Ярашэвіча запрашалі да гомельскіх будаўнікоў падзяліцца сваімі ведамі; перад паездкай Станіслаў раіўся з сябрамі, як лепш, больш карысна пабудаваць свой расказ. За парадай да брыгады ён звярнуўся і тады, калі пісаў для Дзяржаўнага выдавецтва БССР сваю кнігу «Будаваць дамы адной брыгадай». Кніга заслужанага будаўніка выйшла масавым тыражом і адразу знайшла свайго чытача на многіх будоўлях Беларусі.

Брыгада Ярашэвіча была першай комплекснай брыгадай. Цяпер такіх брыгад мноства на новабудоўлях Беларусі.

У Мінск часта прыязджаюць будаўнікі з многіх гарадоў Савецкага Саюза, са Сталінграда, Кіева, Вільнюса. Прыязджаюць паглядзець, як адбудавалі горад, што яшчэ зусім нядаўна быў увесь у руінах. І хто б з гасцей ні прыехаў для гэтай мэты, усім рэкамендуюць пабываць на будоўлі, дзе працуе брыгада Станіслава Ярашэвіча.

Іншы раз, ідучы раніцаю на працу, Станіслаў сустракае Марыю Макарэвіч. Тады паміж заслужаным будаўніком Станіславам Ярашэвічам і Героем Сацыялістычнай Працы Марыяй Макарэвіч адбываецца сяброўская гутарка.

— Хутка ключы жыхарам дасце? — пытаецца Макарэвіч, аглядаючы будоўлю, на якой працуе брыгада Ярашэвіча.

— Па плану, а магчыма, і раней на тыдзень.

— І ў нас усё ў парадку. Закончым у тэрмін.

Марыя працуе на вялікім жылым аб'екце, амаль па суседству. Паміж Ярашэвічам і Макарэвіч няпісаны дагавор на спаборніцтва. Яны адзін у аднаго пераймаюць новае. Чалавек на будоўлі — гэта чалавек на вахце міру.

**Я. САДОЎСКІ.**

## ЯНЫ ВЫЙШЛІ НАПЕРАД

Гэта было два гады назад. Як заўсёды, пасля работы Анатоль Хацятоўскі вярнуўся дадому стомлены. Жонка сустрэла яго ветліва. Пачала расказваць, што ў іх на ферме справы пайшлі куды лепш. Жывёлаводы выканалі абавязацельствы. Пра іх добра гавораць у раёне. Такая вестка Анатоля ўзрадавала. І ён задумаўся: жонка стала ў рады перадавікоў, а ён, кінамеханік, сорамна прызнацца, з месяца ў месяц план не выконвае.

У такім жа становішчы былі ўсе кінамеханікі ў раёне. У раённы аддзел культуры нават сорамна было заходзіць. Загадчыка аддзела выклікалі ў вобласць, дакаралі ў раёне, а ён не ведае, якія даць парады кінамеханікам, як лепш наладзіць абслугоўванне сельскага насельніцтва.

Затым вырашылі ў раённым аддзеле культуры сабраць нараду кінамеханікаў. Выступаў Анатоль Хацятоўскі.

— Далей цярпець такое становішча нельга, — сказаў ён. — Мая прапанова: хто хоча працаваць — давайце, не хоча — няхай піша заяву аб звальненні. Усе хлопцы, як дубы, а план не выконваюць. Сорамна...

Яго падтрымалі Іван Бондараў, Віктар Гінтаўт, Алесь Шынкароў і іншыя.

Раённы аддзел культуры хацеў вызваліць ад работы нядбайных кінамеханікаў Падскрэбкіна, Тураленку, Скачкова.

— Мы камсамольцы, — прасіліся яны, — нам сорамна не справіцца. Дайце месяц тэрміну. Мы дакажам. Мы будзем працаваць...

Кадры кінамеханікаў папоўніліся новымі спецыялістамі. Здольныя да працы людзі ўзялі абавязацельствы — вывесці раён у перадавыя па кінаабслугоўванню сельскага насельніцтва.

Прайшло тры месяцы. Кінамеханікі пачалі рэгулярна дэманстраваць у вёсках кіно, перад сеансамі расказваць змест кінафільмаў, цікавіцца, напрыклад, які фільм калгаснікі жадаюць паглядзець у бліжэйшы час. На маршрутах лепш працавалі кінамеханікі Анатоль Хацятоўскі, Аляксей Шынкароў, Мікола Скачкоў. Яны першыя ў раёне сталі выконваць месячныя планы.

На рахунку раённага аддзела культуры з'явіліся грошы. Гэта дало магчымасць набыць некалькі электрапраігрывальнікаў і грампласцінкі. Перад сеансам кінамеханікі пачалі наладжваць для моладзі танцы.

Але мала наведвалі кіно людзі сярэдняга веку, старыя. Райком партыі прапанаваў, каб для калгаснікаў да пачатку сеанса настаўнікі, аграномы, медыцынскія работнікі чыталі лекцыі, праводзілі гутаркі, а ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці выступалі з канцэртамі.

Некаторыя кінамеханікі не хацелі дэманстраваць фільмы там, дзе няма клубаў. А гэта было няправільна. Напрыклад, у вёсцы Чырвоная Буда 21 двор. Там многія людзі наогул ніколі не бачылі кіно. Анатоль Хацятоўскі першым паказаў фільм перад 18 калгаснікамі. Ён дэманстраваў кіно ўдзень у школе, а ўвечары для дарослых у звычайнай сялянскай хаце. Упершыню ў раёне Анатоль Хацятоўскі пачаў перавыконваць план. Яго маршрут у раёне стаў перадавым. Зарплату з прэміяльнымі ён атрымліваў штомесячна да тысячы рублёў.

Анатоль Хацятоўскі выказаў жаданне пайсці на адстаючы ўчастак, а яго прыкладу паследавалі Алесь Шынкароў і Рыгор Пынікаў. За дватры месяцы яны даказалі, што людзі ў кожнай вёсцы цікавяцца кіно і можна адстаючы ўчастак зрабіць перадавым.

У трэцім квартале 1960 г. калектыў кінамеханікаў раёна заняў першае месца ў рэспубліцы, быў узнагароджаны першай грашовай прэміяй і пераходным Чырвоным сцягам Міністэрства культуры і БРК прафсаюза работнікаў культуры.

Кінамеханікі яшчэ з большым энтузіязмам узяліся за справу. За імі замацаваны пастаянныя маршруты. Цяпер маем графік выканання плана па кожнай кінаўстаноўцы. Кінамеханікі праз два-тры дні паведамляюць у раённы аддзел культуры — колькі яны абслужылі гледачоў і ў якіх населеных пунктах паказаны фільмы. Гэта дае магчымасць лепш кантраляваць работу кожнай кінаўстаноўкі. Цяпер калектыў кінафікатараў Чавускага раёна змагаецца за званне брыгады камуністычнай працы.

Кінамеханіку, які займаў першае месца на працягу квартала, уручаецца пераходны Чырвоны сцяг аддзела культуры і грашовая прэмія. Гэта робіць спаборніцтва больш дзейсным і дапамагае кожны месяц перавыконваць план.

Асаблівую ўвагу кінамеханікі аддаюць дэманстрацыі сельскагаспадарчых і навукова-папулярных фільмаў.

Толькі за дзесяць месяцаў мінулага года ў калгасах раёна прадэманстравана 60 назваў сельскагаспадарчых, навукова-папулярных, хранікальна-дакументальных фільмаў, арганізавана 1 420 кінасеансаў.

Цяпер мы дамагаемся, каб у кожным населеным пункце, вялікім і малым, рэгулярна дэманстраваліся фільмы, каб у кіно ішлі ўсе калгаснікі. Раённы аддзел культуры для кінаўстановак набыў музычныя інструменты, радыёлы, гармонікі, шахматы, шашкі. Нездарма кінамеханікаў у кожнай вёсцы людзі называюць вестунамі добрага настрою. Кінамеханікі нашы самаададана змагаюцца за званне калектыву камуністычнай працы. Анатоль Хацятоўскі, Іван Бондараў і Алесь Шынкароў ужо сталі ўдарнікамі камуністычнай працы.

**М. СВІСТУНОЎ,**
**намеснік загадчыка Чавускага раённага аддзела культуры.**

Наша савецкае жыццё

## ВЫХАВАНКА ЗАВОДА

Галіна Ясючэня паціскае плячыма і вельмі скупа расказвае пра сябе:

— Працую шліфоўшчыцай. Вельмі люблю самадзейнасць... Вось, здаецца, і ўсё...

Прыемная сціпласць. І пра слаўныя поспехі шліфоўшчыцы Мінскага падшыпнікавага завода нам больш падрабязна расказваюць рабочыя цэха. Галіна Ясючэня працуе ў калектыве, які носіць імя змены камуністычнай працы. У змене 28 чалавек. Усе яны даўно працуюць у лік новага года. Зразумела, што прадукцыя, якую яны выпускаюць, толькі выдатнай якасці.

Галіна Ясючэня — выхаванка гэтага буйнейшага ў рэспубліцы прадпрыемства. Яна прыйшла сюды вучаніцай і, дзякуючы старраннай працы, стала сапраўдным майстрам. Але быць членам змены камуністычнай працы — гэта не толькі даваць выдатную прадукцыю звыш плана, але і ўдасканальваць сваю прафесію, удзельнічаць у грамадскім жыцці. У мінулым годзе Г. Ясючэня закончыла курсы павышэння кваліфікацыі. Дзяўчыну ведаюць на заводзе як аматара мастацкай самадзейнасці, цудоўнага танцора.

## Ініцыятар — моладзь

Да Вялікай Айчыннай вайны мастацкая самадзейнасць калгаса «Чырвоная Дуброва» (цяпер — «Шлях да камунізма») Парыцкага раёна славілася далёка за яго межамі.

У 1936 г. на Усебеларускім аглядзе мастацкай самадзейнасці ў Мінску хор калгаса пад кіраўніцтвам калгасніцы М. Жданові́ч быў прэміяваны.

З таго часу мінула амаль чвэрць стагоддзя. Калгас узбуйніўся. У ім сем населеных пунктаў. Пабудаваны добры клуб на 400 месц. Ёсць вялікая бібліятэка, радыёвузел, электрастанцыя і шмат іншай тэхнікі — трактары, камбайны і аўтамабілі. На ўсіх вытворчых участках дружна працуюць калгаснікі. У калгасе ўкараняецца грашовая аплата працы без налічэння працадзён.

Завадатарам у працы, у адпачынку калгаснікаў, як і мае быць, з'яўляецца моладзь.

Настаўнікі і медыцынскія работнікі, трактарысты і даяркі — удзельнікі мастацкай самадзейнасці. Зараз у калектыве 25 самадзейных артыстаў. У іх рэпертуары песні, танцы, інтэрмедыі і мастацкае чытанне.

На раённым аглядзе мастацкай самадзейнасці ў Парычах хвалілі дуброўскіх дзяўчат і хлопцаў.

Са здавальненнем глядзелі канцэрт самадзейных артыстаў рабочыя саўгасаў «Шацілкі» і «Асташкавічы».

**Мікалай БУСЕЛ,**
**рэдактар насценнай газеты «За высокі ўраджай» калгаса «Шлях да камунізма».**

## Госці раённага цэнтра

У Асіповічах часта выступаюць з канцэртамі прафесіянальныя артысты драмы.

Артысты Смаленскага драматычнага тэатра паказалі жыхарам спектакль «І адзін у полі воін», а рускі Тэатр імя М. Горкага — «Чацвёра пад адным дахам».

Апрача гараджан, спектаклі паглядзелі рабочыя Асіповіцкага саўгаса і калгаснікі сельгасарцелі «Авангард».

**Наш кар.**

## НАВАГОДНІ ПАДАРУНАК

Выдатны падарунак да Новага года атрымалі рабочыя і служачыя Лідскай абутковай фабрыкі. Побач з галоўным корпусам прадпрыемства вырас прыгожы будынак Палаца культуры. Напярэдадні Новага года тут адбыўся першы баль-маскарад, у якім прынялі ўдзел сотні рабочых фабрыкі і члены іх сем'яў.

**На здымку:** Палац культуры Лідскай абутковай фабрыкі.

Фота **А. Перахода.**
Фотахроніка БЕЛТА.

## ВЫСТАЎКА КАРЦІН

Беларускі мастак Ул. Сакалоў стварыў шмат карцін, прысвечаных сучаснаму жыццю.

У Асіповіцкім гарадскім Доме культуры адбылася выстаўка яго работ. Яе наведала больш трох тысяч жыхароў горада. Тлумачэнні даваў аўтар. Мяркуючы па кнізе водгукаў, большасць твораў мастака выклікалі значную цікавасць у гледачоў — жыхароў горада Асіповічы.

**В. САМУСІК.**

Рэпартаж

## Ёсць ля Гомеля Касцюкоўка...

Шаша вырываецца з Гомеля, мінае «гарбаты мост» і ляціць у кірунку Доўска. Зацягнутыя туманам, у драбнюткай золі застылі яромінскія сады. Ствалы яблынь і ігруш пабелены. Здаецца, дрэвы апранулі бялюткія сукенкі. Цудоўна тут вясной, калі чысцюткая кіпень абсыпае кроны дрэў, а ў расчыненыя вокны аўтобуса вецярок-весялун даносіць густы пах квецені.

А рабочы пасёлак Касцюкоўка відаць яшчэ здалёк. У шэрым небе высяцца каміны шклозавода імя Сталіна. На самым высокім з іх выкладзены лічбы — «1932»: шклозавод — першынец першай пяцігодкі.

Аўтобус абмінае стрэчных лоўка,
Снежанькі бадзёрыць халадок.
Добры дзень, пасёлак
Касцюкоўка,
Слаўны і прыгожы гарадок!

Пазнаёміцца заўсёды рады
будзем,
Рады бачыць здаля каміны,
Убачыць, як працуюць твае
людзі,
Як будуюць камунізм яны.

Яшчэ не заходзячы на заводскі двор, адчуваеш дыханне магутнага шклозавода. Прадукцыю яго ведаюць не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Колькі цудоўных людзей вырасла тут! Вось брыгада Ніны Карпекінай — калектыў камуністычнай працы. Брыгада рыхтуе шыхту — састаўныя часткі будучага шкла. Дзяўчат у чырвоных касынках, якія працуюць на састаўленні шыхты, добра ведаюць на шклозаводзе, у рабочым пасёлку Касцюкоўцы. Усе члены брыгады выдатна працуюць, усе вучацца, усе ўдзельнічаюць у гуртках мастацкай самадзейнасці пры заводскім Палацы культуры. Нямала цікавага расказала Ніна Карпекіна, як вярнулася з Масквы, з Усесаюзнай нарады разведчыкаў будучыні.

— Будзем, дзяўчаткі, не толькі прыгожа жыць, — сказала Ніна сяброўкам, — але і дамагацца таго, каб кожны чалавек на нашым заводзе стаў ударнікам камуністычнай працы.

Цяпер гэта — не проста словы: на прадпрыемстве нямала брыгад і змен камуністычнай працы. Гэтае ганаровае званне прысвоена змене Аляксандры Туранскай, брыгадзе Эдуарда Самусёва і многім іншым.

А панаглядайце за працай вядомага ў пасёлку шклавара Івана Паўлавіча Аскомы. Вы зразумееце, што чалавек гэты — у душы мастак, і да чаго ж далікатна і ўпэўнена распараджаецца ён такім складаным працэсам, як варэнне шкла. Адзінаццаць грамат у Івана Паўлавіча за выдатную работу, у якую ён укладвае ўсю душу і майстэрства.

— Мы ж працуем для будучыні, для камунізма, — гаворыць Іван Паўлавіч. — Значыць, працаваць трэба з чыстай душой...

З чыстай душой! Бадай, лепш не скажаш. На заводзе зроблена нямала ўдасканаленняў, укаранёна многа рацыяналізатарскіх прапаноў. І зроблены яны людзьмі з чыстай душой, людзьмі камуністычнага заўтра.

Нямала, напрыклад, у саставіцельным цэху каштавала нагрузка і транспарціроўка крэйды і даламіту. Рыдлёўка і ваганетка — вось якія прылады працы былі тут. А цяпер у цэху дзейнічаюць дзве тэхналагічныя механізаваныя паточныя лініі. Іх сканструявалі заводскія канструктары. Адзінаццаць чалавек вызвалілася на гэтым участку, а дзяржаве сэканомлена 6 тысяч рублёў.

Трыццаць пяць тысяч кустарнікаў высаджана сёлета на вуліцах рабочага пасёлка! У зеляніне і завод.

Старшыня пасялковага Савета — энергічная маладая жанчына Ніна Васільеўна Мярзлова называе новыя жылыя дамы, што выраслі за апошнія два — тры гады ў Касцюкоўцы, і жартам скардзіцца:

— Разумееце, не паспяваем прыдумваць новыя назвы для вуліц. Адных Новых у нас налічваецца ажно шэсць. Думаем стварыць журы. Няхай выбіраюць самыя лепшыя назвы. Чаму няма ў нас, скажам, вуліцы Шчасця, вуліцы Светлай або Сонечнай?..

Сапраўды, чаму?

У рабочым пасёлку працуюць новыя спецыялізаваныя магазіны, павільён бытавога абслугоўвання, пабудавана школа-інтэрнат на 920 месц, будзе ўзводзіцца начны прафілакторый для шклозаводцаў, музычная школа. І ўсё гэта — літаральна за якія тры — чатыры гады!

У велізарным Палацы культуры, на другім паверсе, мы сустрэлі мясцовага мастака Уладзіміра Селівестравіча Камоўскага. Толькі што скончыліся заняткі студыі выяўленчага мастацтва. Уладзімір Селівестравіч заканчвае партрэт ветэрана завода Якава Паўлавіча Прахарэнкі. Побач — новыя эскізы, карціны мастака. Вось — новыя цэхі шклозавода, вось — месца, дзе будзе спартыўны гарадок.

Пры палацы працуюць клубы маладой сям'і і старшакласнікаў. Хіба не карысна самому навучыцца кроіць і шыць вопратку для сваіх дзяцей або ўмець размеркаваць сямейны бюджэт? А гэта ж усё ўваходзіць у праграму вечароў клуба маладой сям'і. Асабліва ўдала прайшлі вечары гэтага клуба «Быт — не прыватная справа», «Бацька і маці ў адказе за выхаванне дзяцей» і інш.

Нямала цікавага і ў рабоце клуба старшакласнікаў. Старшынёй савета яго з'яўляецца вучаніца Тамара Сідарэнка. Моладзь сустракалася з удзельнікамі брыгад камуністычнай працы, з ветэранамі завода. На вечар «Завод, на якім працуюць мае бацькі», напрыклад, запрасілі начальніка тэхнічнага аддзела завода Міхаіла Фірэра. Ён расказаў, як будаваўся шклозавод, як расло і пашыралася прадпрыемства. А потым перад удзельнікамі клуба выступала рабочая гвардыя завода — Вольга Міхайлаўна Гурава і Вера Міхайлаўна Пачакаева. Уважліва слухалі прысутныя і расказ аб тым, як працуюць і адпачываюць члены брыгады камуністычнай працы Эдуарда Самусёва.

Шмат цікавага ў рабоце палаца. Хор пад кіраўніцтвам Равуцкага развучвае новыя песні, а танцавальны калектыў — новыя танцы. Самадзейны кампазітар Эдуард Логаш піша новыя музычныя творы.

З верай у сваё цудоўнае Заўтра сустрэў калектыў завода Новы год.

**М. ДАНІЛЕНКА.**

РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ВЫСТАЎКА ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА

# ПОШУКІ НОВАГА

На рэспубліканскай выстаўцы беларускага выяўленчага мастацтва ўпершыню разам з жывапісцамі, скульптарамі і графікамі паказваюць свае творы мастакі прыкладнога жанра.

На выстаўцы прадстаўлены вырабы са шкла беларускіх шклозаводаў «Нёман» і імя Дзяржынскага, кераміка Мастацкага фонду БССР і фарфор Мінскага фарфора-фаянсавага завода.

Адчуваецца новае і свежае, вельмі сучаснае, што выгадна адрознівае творы мастакоў-прыкладнікоў ад экспанатаў іншых раздзелаў выстаўкі. Пошукі новага, імкненне надаць рэчам быту простыя выразныя формы, якія лепш адпавядаюць практычным і эстэтычным запатрабаванням савецкіх людзей, складаюць асноўны напрамак у творчасці прыкладнікоў.

Пошукі новага ў мастакоў двух буйнейшых шклозаводаў Беларусі выяўляюцца перш за ўсё ў тым, што яны працуюць над стварэннем рэчаў масавага ўжытку, а не ўнікальных выставачных узораў. Дэсертныя сервізы, вазы для кветак і садавіны, прызначаныя для стала і ўпрыгожання інтэр'ера, павінны ўвайсці ў штодзённы быт і служыць чалавеку практычна, выхоўваць яго эстэтычна. Таму мастакі дбаюць перш за ўсё пра тое, каб вырабы са шкла былі зручнымі ў карыстанні, нескладанымі ў вытворчасці і даступнымі пакупніку. На выстаўцы прадстаўлена вялікая колькасць экспанатаў, якія адпавядаюць гэтым запатрабаванням: дэсертны сервіз «Летні» і прыбор для варэння, «Каляровыя донцы» мастака шклозавода «Нёман» Л. Мягкавай, прыбор «Народны» мастака таго ж завода Е. Гладкова, дзіцячы прыбор і прыбор для варэння «Бруснічка» Г. Ісаевіч. Усе рэчы зроблены з тонкага бескаляровага шкла, маюць простыя сучасныя формы, упрыгожаны сціплым арнаментам, які падкрэслівае ігру і бляск шкла.

Станоўчым з'яўляецца імкненне выявіць прыгажосць шкла, зусім не аздабляючы яго арнаментам. На выстаўцы ёсць вырабы, выкананыя з рознакаляровага шкла. Прыборы для малака мастака шклозавода імя Дзяржынскага А. Абрамавай і для варэння, зроблены мастаком таго ж завода Н. Растоўцавай, выкананы з тонкага сіняга шкла. Мастакі шклозавода «Нёман» аддаюць перавагу апаламу шклу. Такія прыборы для вады В. Мурахвера і Г. Ісаевіч. Простая форма сасудаў без дэкору або з нязначным прымяненнем яго дае магчымасць паказаць якасць і прыгажосць шкла.

Вялікіх поспехаў дасягнулі мастакі шклозавода «Нёман» у вырабе посуду з цынкасульфіднага шкла. Прыбор для вады В. Мурахвера, ваза для кветак «Гарбуз» Л. Мягкавай і дэкаратыўная ваза Б. Шыманскага даюць поўнае ўяўленне аб дэкаратыўных магчымасцях цынкасульфіднага шкла. Мастацкая вартасць посуду з гэтага шкла павялічваецца тым, што кожны раз атрымліваецца іншае афармленне рэчы. Гэта робіць яе непаўторнай, адсутнічае штамп, амаль непазбежны ў творах мастацкай прамысловасці.

Апроч такіх важных якасцей, як зручнасць у карыстанні, прастата выканання і даступнасць масаваму пакупніку, твор прыкладнога мастацтва павінен несці ў сабе элементы прыгожага. Без гэтай якасці рэч траціць права называцца творам мастацтва. Зграбнасць рэчаў са шкла, экспанаваных на выстаўцы, — таксама вынікі пошукаў новага.

Стала пашыранай думка: чым больш аздоблена рэч, чым больш на яе затрачана дарагіх матэрыялаў, тым яна лепшая, прыгажэйшая. Гэтая думка цалкам абвяргаецца вырабамі, прадстаўленымі на выстаўцы. Прыгажосць вырабаў са шкла дасягаецца не вычварнасцю формы і дэкарыраваннем яе. Мастакі знаходзяць выразнасць мастацкага вобраза ў строгіх прапорцыях рэчы, у стройным сілуэце яе, умела спалучаючы пластычнае вырашэнне з дэкорам. Яркім прыкладам у гэтых адносінах з'яўляецца прыбор «Бочка» Г. Ісаевіч. Графін і келіхі з дымчастага шкла маюць форму бочкі і кадушак, гэтую форму падкрэслівае лінейная строгая гравіроўка. Умеранае выкарыстанне дэкору характэрна для сучаснага стылю прыкладнога мастацтва. Л. Мягкава ў прыборы для вады з марлётавага і жоўтага шкла зусім адмаўляецца ад дэкору і знаходзіць вобразнае вырашэнне ў проціпастаўленні формы, колеру збана і кубкаў. Форма цёмнага збана вынікае з уласцівасцей самога матэрыялу — ён нагадвае вялікую шкляную кроплю. Яго форма і колер проціпастаўлены шырокім неглыбокім жоўтым кубкам. Гэта дае магчымасць мастаку падкрэсліць харawство кожнай рэчы, і ў гэты ж час яны з'яўляюцца адзіным цэлым. Іх аб'ядноўвае ўмела знойдзеная форма, уласцівая толькі шклу. Падобнае вырашэнне дае магчымасць паказаць бліскучыя дэкаратыўныя магчымасці шкла. Гэтыя якасці мае цэлы рад рэчаў — вазы з чырвонага з крыялітам шкла Мурахвера і Мягкавай «Паласатая», «Сунічка», дэкаратыўная ваза Гладкова «Асенняя», дэкаратыўная ваза «Бутыль» Мягкавай з марблітавага шкла з крыялітавай ніткай і іншыя.

У гэтым жа напрамку працуюць мастакі пры стварэнні асобных рэчаў з больш дарагога шкла. Прыгожы прыбор для садавіны «Гарох» стварыла А. Абрамава, у якім акруглая мяккая форма рэчаў падкрэсліваецца дэкорам — бескаляровымі гранёнымі кругамі на марганцавым фоне. Адлюстроўваючыся на сценках рэчаў, яны надаюць ім своеасаблівую прыгажосць. Асабліва ўдалае вырашэнне знайшла Абрамава ў дэкаратыўнай вазе «Сланечнік» з жоўтага крышталю. На амаль круглай паверхні вазы размешчаны сланечнікі, выкананыя рознымі прыёмамі гранення. Мажорнасць гучання, выразнасць і святочнасць дасягаюцца выдатнай чысцінёй крышталю і багатай ігрой граней. Падобнае ж удалае спалучэнне формы, колеру і дэкору знойдзена Мягкавай у вазе для кветак і для садавіны з зялёнага тоўстага шкла. Высокая форма вазы для кветак характэрна шырокімі вертыкальнымі гранямі, а чоўнападобная форма посуду для садавіны падкрэсліваецца праменнямі грані, якія надаюць бляск і прыгажосць шклу.

Асобнае месца займаюць на выстаўцы творы са шкла, на якіх нанесены малюнкі. Мурахвер прадставіў два дэкаратыўныя блюды «Біцюг» і «Залаты волас», вазы «Чапля» і «Лодачка», у якіх мастак выяўленчыя матывы імкнуўся вырашыць у адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі прыкладнога мастацтва, звязаць адлюстраванне з формай і прызначэннем рэчаў. Усе вырабы з'яўляюцца безумоўнай удачай мастака. Выяўленчыя элементы вельмі арганічна размяшчаюцца на плоскасці рэчы, розныя прыёмы апрацоўкі не толькі паказваюць якасці шкла, але і дапамагаюць успрыймаць кампазіцыйнае вырашэнне блюд.

Паспяхова выступіў на выстаўцы майстар шклозавода «Нёман» С. Багінскі, які паказаў цацкі са шкла: «Жыраф», «Цюлень», «Слон» і «Качаня». Яны нясуць у сабе элементы народнай цацкі і адраджэнне яе ў шкле можна вітаць, як станоўчы факт. Апроч таго, аўтар здолеў знайсці цікавае вобразнае вырашэнне ў адлюстраванні жывёл, некалькі ўтрыруючы форму, надаючы жывёлам камізм і некаторую наіўнасць.

Значную цікавасць маюць творы з крышталю, выкананыя таксама ў адпаведнасці з патрабаваннямі прыкладнога мастацтва. Гэтае новае знойдзена як у прастаце форм, так і ў строгасці і навізне дэкаратыўнага афармлення крышталю. Замест звычайнай дробнай алмазнай грані, ужываецца шырокая грань і пескаструменная апрацоўка. Аб'яднанне гэтых прыёмаў дазваляе мастакам дасягаць выдатных вынікаў. Эфектныя вазы майстра шклозавода імя Дзяржынскага С. Грахоўскага «Хрызантэма» і «Шахматная», туалетны прыбор «Сняжынка» Мягкавай і ваза для садавіны Ісаевіч, дзе прыгажосць і празрыстасць крышталю гучаць мацней у злучэнні з матавай паверхняй рэчаў.

На працягу мінулага года мастакі шклозаводаў працавалі над творамі, якія нясуць у сабе нацыянальныя беларускія элементы. Першыя крокі ў гэтай галіне зроблены ўдала. Мастакам шклозавода «Нёман» Мурахверу і Мягкавай удалося вырашыць у шкле посуд, які нагадвае па форме старадаўнюю беларускую бытавую кераміку. Той жа прыём дае магчымасць стварацъ на заводзе ў масавай колькасці нацыянальныя сувеніры са шкла — невялікі разнастайны посуд, які паўтарае па форме народную кераміку.

Першае выступленне мастакоў шкляной прамысловасці на рэспубліканскай выстаўцы, безумоўна, можна лічыць удалым. Станоўчым з'яўляецца шырокае выкарыстанне багацейшых магчымасцей шкла, імкненне да стварэння простых, прыгожых і выразных рэчаў, якія адпавядаюць новаму сучаснаму інтэр'еру.

Бядней прадстаўлены на выстаўцы фарфор і кераміка. Гэта тым больш крыўдна, што Беларусь славілася ў старажытнасці народнай керамікай і адраджэнне яе ў наш час — важная задача мастакоў.

Мінскі фарфора-фаянсавы завод экспанаваў на выстаўцы вазы для кветак рознай формы і некалькі статуэтак. Пры першым поглядзе на гэтыя рэчы адчуваецца, што мастакі завода стараюцца ісці ў нагу з агульнай лініяй развіцця сучаснага прыкладнога мастацтва. Вазы для кветак «Вярба», «Чорныя кроплі», «Чарот» мастака В. Кірыленкі маюць прыгожыя абрысы і сціплы, але выразны дэкор, які падкрэслівае форму рэчы. Цікава вырашана насценная кветніца, жоўтая паліва якой добра павінна глядзецца на фоне сцяны. Менш удалыя статуэткі, выкананыя па эскізах І. Краўчанкі і А. Каўрыжкіна. У іх аўтары не здолелі знайсці неабходнага абагульнення ў вырашэнні вобраза. Яны вельмі шматслоўныя і дробныя, дэкор не робіць іх лепшымі, аўтары роспісу ідуць тут не па лініі абагульнення, а ўносяць роспісам яшчэ большую дробнасць.

Сучаснае вырашэнне настольнай скульптуры знайшлі мастакі керамічнага цэха Мастацкага фонду БССР. «Пантэры» Н. Рыжанкова, «Зубр» і «Куніца» Ф. Зільберта маюць выразны сілуэт, які дасягаецца шляхам максімальнага абагульнення формы і ўмоўнасці дэкору. Мастакі скупымі сродкамі здолелі перадаць характэрныя звычкі жывёл. Але ў некаторых скульптурах тых жа аўтараў мы не знаходзім неабходных абагульненняў і ўмоўнасці, што значна зніжае іх мастацкую якасць.

На выстаўцы ёсць розныя формы вазы для кветак і кісцей, дэкаратыўныя талеркі, збаны з керамікі. Ва ўсіх гэтых рэчах адчуваецца імкненне мастакоў знайсці новыя формы і сучасны дэкор (дэкаратыўныя талеркі Л. Чамякова, вазы Ф. Зільберта, збаны І. Харламава). Правільнае керамічнае вырашэнне знайшла ў сваіх творах Л. Каджар. Яе збаны вырашаны ў духу народнай беларускай керамікі, а па форме і па дэкору нясуць у сабе рысы сучаснасці. У прадстаўленых рэчах адчуваецца правільны напрамак, узяты мастакамі.

Праўда, імкненне да наватарства і арыгінальнасці прыводзіць іншы раз мастакоў да памылковага вырашэння, надае іх творам эксперыментальны характар, сумніцельны па дасягнутаму выніку.

Цяжка меркаваць па першых працах аб далейшым развіцці беларускай керамікі. У керамістаў ёсць пэўны напрамак, але гэта яшчэ пошукі, якія неабходна працягваць як у плане стварэння мастацкага вобраза, так і ў плане тэхнічнага ўдасканалення іх. Важнай і неабходнай якасцю беларускай керамікі павінен стаць ярка выяўлены нацыянальны характар яе. Наша кераміка таксама павінна мець сваё аблічча, як кераміка Украіны, Прыбалтыкі, Расіі.

Перад мастакамі прыкладнога мастацтва пастаўлены вялікай важнасці задачы — ствараць рэчы зграбныя і зручныя ў быце і не толькі ствараць, але і дамагацца іх масавай вытворчасці. Знаёмства з творамі прыкладнога мастацтва, экспанаванымі на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы, дае падставу меркаваць, што беларускія мастакі-прыкладнікі здольны выканаць гэтыя задачы.

**І. ПАНЬШЫНА.**




Вокладкі новых кніг, якія выйшлі ў Дзяржаўным выдавецтве БССР: «Ключы жураўлінія» М. Аўрамчыка, «Дзеці з нашага двара» З. Эргле (пераклад П. Рунца), «Шлях да праўды» П. Шастакоўскага, «Афэрдзіта зноў у вёсцы» Стэр'ё Спасэ (пераклад Л. Салаўя).

## Сям'я музыкантаў

Скрыпку, піяніна, акардэон і іншыя музычныя інструменты сустрэнеш цяпер у многіх дамах гарадскога пасёлка Скідзель і навакольных вёсак.

Вось, напрыклад, у сям'і Аляксея Антонавіча Казячага ёсць гармонік, акардэон, трубы, гітара, балалайка. Добрым спадарожнікам у жыцці гэтай сям'і стала і песня. Дзіва што! Гэта ж сям'я музыкантаў. Галава сям'і Аляксей Антонавіч сам больш дваццаці год займаецца музыкаю. Ён прывучае да музыкі і сваіх дзяцей — Валянціна і Алу. Яны — актыўныя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці.

Дванаццацігадовая Ала захапляецца ігрой на акардэоне і гітары, часта выступае ў канцэртах школьнага харавога гуртка ў Доме піянераў. Чатырнаццацігадовы Валянцін неразлучны з баянам. Хлопца заўсёды можна бачыць у першым радзе аркестра пры раённым Доме культуры.

Любоў да песні, музыкі перадаецца ў сям'і Казячых з пакалення ў пакаленне.

— Яшчэ мой дзед, — прыгадвае Аляксей Антонавіч, — і бацька былі заўзятымі аматарамі музыкі. Яны не толькі ігралі, але і самі выраблялі інструменты. І цяпер, як бачыце, наша тройка працягвае гэтую добрую традыцыю.

Я слухаў, як Аляксей Антонавіч з дзецьмі выконвалі ўтраіх вальс «Бярозка», і думаў: так, добрая музыка сапраўды ўпрыгожвае жыццё.

**Ів. КРЫШАЛОВІЧ.**

Скідзель.

## *Нам пішуць*

На «Гомсельмашы» пабывалі артысты Бабруйскага драматычнага тэатра. У заводскім Палацы культуры яны паказалі спектакль па п'есе «Курортнае знаёмства» В. Віннікава і В. Крахта. У адной з галоўных ролей (Маргарыта Громава) выступіла артыстка Л. Місько. Яшчэ зусім нядаўна яна працавала на «Гомсельмашы», удзельнічала ў заводскай мастацкай самадзейнасці. На сустрэчу з былой работніцай, а зараз прафесіянальнай артысткай прыйшло 500 камбайнабудаўнікоў.

**В. СЯМЁНАЎ.**

* * *

Вязкоўская сельская бібліятэка Брагінскага раёна адкрыла ў вёсках Багушы і Хатучы пункты выдачы кніг. За апошні час актывісты бібліятэкі правялі дзве канферэнцыі юных чытачоў, гутаркі і агляды навінак дзіцячай літаратуры.

**Я. КРАЎЧАНКА.**

* * *

255 чытачоў наведваюць Браніслаўскую сельскую бібліятэку Жыткавіцкага раёна. Гэта рабочыя саўгаса «Жыткавіцкі». За апошнія дзесяць месяцаў звеннявы будаўнічай брыгады саўгаса Казімір Маслоўскі прачытаў звыш 50 кніг па розных галінах ведаў.

**А. КАВАЛЁЎ.**

* * *

Бялыніцкая раённая бібліятэка правяла абмеркаванне кніг «Трывожнае шчасце» І. Шамякіна і «Вяртанне ў жыццё» Шашміна, а таксама літаратурныя вечары, прысвечаныя жыццю і творчасці А. Чэхава і Л. Талстога.

**В. КУЗЬМІН.**

## *Для ўніверсітэтаў культуры*

У цэнтральных выдавецтвах краіны ў 1961 г. выйдуць кнігі і брашуры, альбомы з рэпрадукцыямі ў дапамогу слухачам універсітэтаў культуры. Уся гэтая папулярная і агульнадаступная літаратура дапаможа ў выхаванні добрых эстэтычных густаў сярод шырокіх мас.

Выдавецтва «Савецкі кампазітар» прадоўжыць пачаты ў 1959 г. выпуск серыі брашур «У дапамогу слухачам народных універсітэтаў культуры. Гутаркі аб музыцы». Брашуры прысвечаны асобным этапам развіцця рускай дарэвалюцыйнай і савецкай музыкі, творчасці выдатных кампазітараў і выканаўцаў.

Дзяржаўнае выдавецтва музычнай літаратуры выдасць серыю «Першапачатковая музычная бібліятэка», разлічаную на самыя шырокія колы чытачоў, а таксама прадоўжыць выпуск кніжных серый «Музычныя формы і жанры» і «Бібліятэка аматара музыкі».

У новым годзе ў продажы з'явіцца папулярная літаратура па выяўленчаму мастацтву. «Савецкі мастак» выдае ілюстраваную масавую серыю брашур «Гутаркі аб мастацтве». У яе ўвойдзе 20 брашур, якія асвятляюць асноўныя пытанні архітэктуры, жывапісу, скульптуры, графікі, дэкаратыўнага мастацтва. У мінулым годзе ўжо выйшаў першы выпуск серыі.

«Бібліятэку па выяўленчаму мастацтву для слухачоў народных універсітэтаў культуры, мастацкай самадзейнасці і школьных бібліятэк» выпусціць выдавецтва Акадэміі мастацтваў СССР. У яе ўвойдуць 50 добра ілюстраваных нарысаў па асноўных пытаннях тэорыі і гісторыі выяўленчага мастацтва, што ахопліваюць усе этапы гісторыі сусветнага мастацтва са старажытных часоў і да сённяшняга дня.

Маленькія кніжкі, якія пазнаёмяць з лепшымі творамі айчыннага выяўленчага мастацтва, будзе выдаваць «Савецкі мастак».

Апроч кніг слухачы ўніверсітэтаў культуры атрымаюць серыю рэпрадукцый карцін, мастацкіх паштовак і альбомаў. «Савецкі мастак» выдасць серыю рэпрадукцый карцін «Бібліятэчка слухача народнага ўніверсітэта культуры». У 1961 г. выйдзе восем выпускаў, прысвечаных асноўным відам і жанрам савецкага выяўленчага мастацтва. Кожны выпуск складаецца з 10—12 рэпрадукцый, уступнага тэксту па тэме і анатацый да карцін.

У 1961 г. Выдавецтва выяўленчага мастацтва плануе выданне спецыяльнай серыі падборак мастацкіх паштовак «У дапамогу слухачам народных універсітэтаў культуры. Гісторыя рускага і зарубежнага выяўленчага мастацтва». Выйдзе 17 падборак паштовак (248 назваў). Паштоўкі анатаваныя. Кожны камплект будзе суправаджацца артыкулам аб развіцці мастацтва таго ці іншага перыяду. Падборкі паштовак зручныя для дэманстрацыі праз эпідыяскоп у час лекцый і гутарак.

Выдавецтвам выяўленчага мастацтва будуць прадоўжаны таксама выпускі масавых серый альбомаў: «Майстры рускага мастацтва», «Майстры мастацтваў народаў СССР» і «Майстры зарубежнага мастацтва».

Набыццё новых папулярных серый кніг і ілюстраваных матэрыялаў дасць магчымасць масавым бібліятэкам задаволіць растучыя запатрабаванні на літаратуру па мастацтву, забяспечыць базу для папулярызацыі мастацтва сярод самых шырокіх мас насельніцтва.

**В. ДЫШЫНЕВІЧ.**

## З песняй і праца спорыцца

Загадчыца Суражскага сельскага клуба Леакадзія Удовіч рэгулярна наведвае цэнтральную ферму сельгасарцелі імя Леніна. Дзяўчына чытае даяркам і свінаркам газеты, праводзіць з імі гутаркі.

Пасля заканчэння работы збяруцца, бывала, даяркі і свінаркі ў чырвоным кутку і спяваюць да пазна песні. І вось аднойчы перад тым, як ісці дадому, Леакадзія сказала:

— Калі паглядзець бюлетэнь спаборніцтва жывёлаводаў раёна, то вы заўсёды ідзяце ўперадзе, а вось у песнях і танцах — апошнія. Трэба, каб і тут вы былі першыя.

Па-рознаму паставіліся жывёлаводы да прапановы Леакадзіі стварыць сваю мастацкую самадзейнасць.

— Не для нас гэта. Тут хоць бы з работай справіцца,—гаварылі некаторыя.

Але старшыня праўлення калгаса т. Сяльвашка паставіўся да прапановы камсамолкі з цікавасцю.

— Добрую ты справу задумала. Відаць, не ўсё роўна табе, як праводзяць свой адпачынак жывёлаводы.

Пасля гутаркі са старшынёю калгаса Леакадзія прапанавала даяркам паслухаць гутарку аб лепшых харавых калектывах рэспублікі, расказала і аб хоры сельгасарцелі «Зара», кіраўнік якога быў узнагароджаны Граматай Вярхоўнага Савета БССР.

На гэты раз даяркі не адмаўляліся ад прапановы загадчыцы клуба, каб арганізаваць на ферме мастацкую самадзейнасць. Быў складзен спіс жадаючых, і пачаліся рэпетыцыі. Удовіч расказвала ўдзельнікам самадзейнасці пра аўтараў тэкстаў і музыкі. Гэта яшчэ больш прышчапляла любоў да самадзейнасці, пашырала кругагляд жывёлаводаў.

Першае выступленне іх адбылося на сцэне калгаснага клуба. Цёпла і сардэчна спявалі жывёлаводы. І не дзіва, што яны заваявалі сімпатыі слухачоў.

**М. ТУМАНАЎ.**

Іўеўскі раён.

## ПРАПАГАНДЫСТ БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ

Любяць кнігу ў Навагрудскім тэхнікуме савецкага гандлю. У вольны ад заняткаў час студэнты наведваюць сваю бібліятэку. Бібліятэкарам тут працуе Канстанцін Сямёнавіч Федаркевіч, які карыстаецца павагай сярод калектыву тэхнікума.

Самае характэрнае ў працы Канстанціна Сямёнавіча — яго ўменне прышчапіць любоў студэнтам да літаратуры. Каля 150 студэнтаў тэхнікума — актыўныя чытачы твораў беларускіх пісьменнікаў. Толькі за прайшоўшы год у бібліятэку, у якой налічваецца 30 тысяч тамоў, паступіла каля 700 новых беларускіх кніг.

Па ініцыятыве Федаркевіча ў бібліятэцы часта праводзяцца літаратурныя вечары па творах беларускіх аўтараў. За апошні час праведзены канферэнцыі чытачоў па раманах Міхася Лынькова «Векапомныя дні», Петруся Броўкі «Калі зліваюцца рэкі», Івана Шамякіна «Крыніцы».

**М. ПАШКЕВІЧ,**
**студэнт Навагрудскага тэхнікума савецкага гандлю.**

## У НАГУ З ЖЫЦЦЁМ

Веткаўская раённая бібліятэка шырока прапагандуе літаратуру, імкнучыся штодзённа павялічваць колькасць сваіх чытачоў. У калгасы накіравана больш 50 бібліятэчак-перасовак. У памяшканні бібліятэкі маляўніча афармлены стэнды з матэрыяламі XXI з'езду КПСС, рэкамендацыйныя спісы літаратуры. Ёсць кніга водгукаў аб прачытаных кнігах. З кастрычніка залеташняга года тут адкрыты свабодны доступ чытачоў да кніжных паліц. У выніку стала значна больш чытачоў і кнігавыдач. Асабліва ўзрос вопыт на навуковую літаратуру.

Летась па ініцыятыве бібліятэкі і раённай газеты «Пад ленінскім сцягам» праведзена завочная канферэнцыя чытачоў — «Кніга— твой лепшы сябра». У ёй прынялі ўдзел людзі розных прафесій. Цікавы быў водгук галоўнага агранома раённай інспекцыі І. Асонава на кнігу С. Шышкова «Вырошчванне кукурузы ў БССР». Даярка В. Лебедзева пісала: «Я скончыла восем класаў і пайшла працаваць даяркай. Цяжка было спачатку. У рабоце напаткала шмат незнаёмага і незразумелага. Тады звярнулася да кніг. І яны мне дапамаглі»...

Раённая бібліятэка праводзіць канферэнцыі чытачоў, вечары пытанняў і адказаў, вечары адпачынку моладзі. Асабліва цікавай была канферэнцыя чытачоў «Наш раён у сямігодцы».

Работнікі бібліятэкі выступаюць з дакладамі і гутаркамі перад насельніцтвам. У клубе ткацкай фабрыкі адбыўся вечар «Гераічны шлях камсамола Беларусі». З дакладам выступіла супрацоўніца бібліятэкі Любоў Каешка.

**Л. КАРМАЧОЎ,**
**інструктар Веткаўскага РК КПБ.**

По гарадах краіны.

На здымку: помнік вядомаму ўральскаму пісьменніку Паўлу Пятровічу Бажову ў Свярдлоўску.

Фота **М. Рубінштэйна.**

# РАДАВЫЯ НАРОДНАЙ БАРАЦЬБЫ

Калі ў прозу прыходзіць аўтар, які раней выступаў у крытыцы, гэта і радуе і крыху насцярожвае. Насцярожвае таму, што нярэдка крытык і ў мастацкім творы застаецца самім сабой; ён добра ведае знойдзеныя і апрабіраваныя другімі мастацкія прыёмы, «сакрэты» прафесіянальнага майстэрства, словам, усю так званую літаратурную «кухню», але сам не ўмее мысліць па-пісьменніцку. І няхай сабе ён добры, нават таленавіты крытык, гэта яшчэ не азначае, што ён будзе такім жа добрым пісьменнікам, бо талент мастака і талент крытыка, маючы шмат агульнага, усё ж далёка не ідэнтычныя. Гэта розныя таленты. І не так часта здараецца, каб адзін чалавек валодаў імі абодвума.

Шчыра кажучы, з некаторым недаверам бярэшся чытаць раман «Вайна пад стрэхамі», напісаны вядомым беларускім крытыкам Алесем Адамовічам *). Аднак недавер аказваецца беспадстаўным: аўтару ўдалося стварыць цікавы, сапраўды значны твор, які сведчыць, што ў Алеся Адамовіча крытычны талент шчасліва спалучаецца з не менш моцным талентам раманіста.

Вядома, папярэдняя літаратурна-крытычная дзейнасць аўтара адбілася на творы, але не адмоўна, а станоўча. У пэўнай ступені кампенсаваўшы адсутнасць чыста пісьменніцкага вопыту, яна дазволіла Алесю Адамовічу пачаць шлях у мастацкай прозе адразу з вялікага і цікавага рамана.

Думаецца, не будзе перабольшаннем сказаць, што гэты раман па сваіх тэндэнцыях належыць да такіх твораў апошніх год аб вайне, як «Жывыя і мёртвыя» К. Сіманава, «Пядзя зямлі» Р. Бакланава, «Апошнія залпы» Ю. Бондарава, «Агонь і снег» І. Шамякіна, «Жураўліны крык» В. Быкава і інш. «Вайну пад стрэхамі» зблíжае з гэтымі творамі падкрэсленае імкненне аўтара ў кожным слове, у кожнай дэталі заставацца верным суровай праўдзе жыцця, жаданне глыбей за сваіх папярэднікаў і, значыць, у многім па-новаму асэнсаваць падзеі вайны, паглядзеўшы на іх перш за ўсё вачыма радавых удзельнікаў, што на сваіх плячах вынеслі асноўны цяжар пакут, якія выпалі на долю народа — перамоўцы над фашызмам.

Былы партызан, Алесь Адамовіч добра ведае вайну, яе нягоды і жахі. З дакладнасцю чалавека, які ўсё пабачыў сам, перадае ён атмасферу першых дзён фашысцкай акупацыі, паказвае, як простыя, здавалася б, нічым не выдатныя савецкія людзі станавіліся ў шэрагі барацьбітоў.

Перад намі Толікава маці, аптэкарка Ганна Міхайлаўна Корзуніха, пра якую нядобразычліўцы кажуць, што яна «з кулачкоў». Яе бацьку, жылаватага старога, і на самой справе ў свой час раскулачылі і накіравалі ў «месцы не вельмі аддаленыя». Праўда, Корзуніха яшчэ раней пайшла з дому, не паладзіўшы з бацькам, бо той «хацеў аддаць яе за багатага хутараніна-ўдаўца і ніяк не мог прымірыцца з тым, што ў дачкі— таксама моцны характар». Але яна не адмаўлялася ад родных, не парывала з імі канчаткова, адкрыта спачувала суседцы і сяброўцы Грабоўскай, якая таксама страціла мужа, хоць ён нікому нічога дрэннага не зрабіў, «мухі не пакрыўдзіў».

Калі ж прыйшлі ворагі, старыя, амаль забытыя непрыемнасці і сапраўдныя ці ўяўныя крыўды для Корзунiхі здаліся нечым даўнім і неістотным. Яны адступілі на задні план перад галоўным, больш важным — перад неабходнасцю змагацца з заваёўнікамі, бараніць Савецкую ўладу. «Я за бацьку не крыўдзілася,— разважае Ганна Міхайлаўна з Уладзікам Грабоўскім,— а за братоў думалася... Мінулае асталося ззаду. Галоўнае — дзеці. У іх будучыня была, а гэта для мяне, для кожнай маці — галоўнае. Свая радзіма — як маці. А чужак заўсёды чужак. Можаш на людзей крыўдзіцца, на каго хочаш, але не на радзіму».

Вось чаму Ганна Міхайлаўна ўжо не можа падтрымаць Грабоўскую, якая і цяпер, у часіну вялікага ўсенароднага гора, «акрамя крыўды сваёй, нічога ведаць не здольна».

Як і кожная маці, Корзуніха больш ад усяго хвалюецца за жыццё дзяцей. Ды яна і сама адчувае немалы страх перад жахлівай навалай. Пісьменнік не ўтойвае, што бываюць хвіліны, калі страх за дзяцей як быццам раздаўлівае, паралізуе жанчыну. І тады з яе вуснаў зрываюцца словы асуджэння па адрасу тых, хто не скарыўся, хто змагаецца з няўмольным ворагам, які адказвае на гэта лютымі расправамі. І ўсё ж небяспека не можа канчаткова зламаць волю Ганны Міхайлаўны. Недзе ў падсвядомасці ў жанчыны жыве і б'ецца знешне не вельмі лагічная, бадай, крыху парадаксальная, але, па сутнасці, глыбока праўдзівая думка: можна і трэба рызыкаваць усім, нават дзецьмі, дзеля іх жа будучыні. Да таго ж Корзуніха залішне чалавечная і высакародная, каб спакойна бачыць людскія пакуты і не спрабаваць аблегчыць іх. Іменна так, з дапамогі пакутуючым у варожым палоне савецкім людзям пачынае рабіць Ганна Міхайлаўна першыя рэальныя крокі ў падпольнай дзейнасці. А калі пачатак зроблены, тады ўжо амаль непрыкметна атрымліваецца, што ў барацьбу ўцягваюцца і старэйшы сын Аляксей, і малодшы Толя, і іншыя людзі, блізкія і дарагія аптэкарцы.

Асабліва прывабная Корзуніха ў трэцяй частцы рамана з характэрнай назвай «Пра маці можна расказваць бясконца». Тут яна праходзіць праз самыя складаныя і цяжкія выпрабаванні, выяўляючы сваю душэўную веліч і маральную сілу.

Псіхалагічнае напружанне і драматызм дасягаюць найбольшага напалу і кандэнсацыі ў тую трывожную ноч, калі аптэкарчын швагер Павел, ратуючыся ад пагрозы арышту, пакідае пасёлак. Велізарная небяспека навісае над Ганнай Міхайлаўнай і яе дзецьмі. Вядома, прасцей за ўсё было б і ёй пайсці з Паўлам. Але жанчына баіцца прыняць паспешлівае рашэнне. «Маці ведала,— падкрэслівае аўтар,— што рана ці позна яна павядзе дзяцей у партызаны». Але калі давялося вырашаць сёння, зараз, ёй стала страшна. Яна ўспомніла, як бялелі на падводах целы партызан, якіх прывезлі тады да камендатуры. Сярод забітых былі навічкі, яны і ад хат сваіх не паспелі адыйсці: яшчэ на досвітку маці выпраўлялі іх у партызаны. А што, калі і яна паспяшаецца і якраз падставіць дзяцей пад тую выпадковасць, якую тыя няшчасныя навічкі маглі б абыйсці, каб пайшлі адным толькі днём пазней. Як толькі яна і сыны яе пакінуць пасёлак, яны памяняюцца ролямі. Не яна, а дзеці будуць кожны дзень тварам да твару з небяспекай, на іх, такіх насцярожаных і нявопытных, усё ляжа. Гэта прыйдзе рана ці позна. Усё ж лепш няхай — пазней. Хоць і страшна рызыкаваць, заставацца пасля таго, як сям'я стала «партызанскай», але тут небяспека звыклая, і яна мае магчымасць змагацца з ёю. А там, у лесе, ёй застанецца толькі баяцца за сваіх дзяцей. «Што рабіць?» — шукае і ніяк не знаходзіць адказу Корзуніха. Можа, яна і рызыкнула б, павяла дзяцей насустрач лёсу. Але ёй не дае спакою другая вельмі важная думка — засталіся непапярэджанымі іншыя падпольшчыкі, бо ўсё здарылася так знянацку. І жанчына, стараючыся ашукаць сябе пустой надзеяй, вырашае застацца. «Ганна Міхайлаўна ведала, што калі яна застанецца і здолее адвесці небяспеку ад свайго дома (пасля ўсяго, што было, жанчына гатова была верыць, што ёй гэта ўдасца), яна адвядзе небяспеку і ад іншых».

Прыходзіць раніца — і надзея, цяпер такая недарэчная, нават дзікая, канчаткова знікае. Спахапіўшыся, Корзуніха паспешліва выпраўляе дзяцей, а сама, ужо ні на што не спадзеючыся, усё ж такі застаецца, застаецца амаль на верную пагібель.

«Маці нават усміхалася.

— Калі я адна, я смелая. Толькі ідзіце хутчэй.

Маці ўсміхалася, толькі б не думалі пра яе. Амаль выпхнула дзяцей з дому. І толькі ў сенцах прашаптала:

— Калі што, глядзіце, заклінаю вас, дзеткі, не ўздумайце вяртацца самі...— Маці пабаялася нават пацалаваць дзяцей, толькі б пайшлі. З сенцаў глядзела ім услед, знясілеўшы ад думкі, што бачыць дзяцей у апошні раз. Ісці следам? Не, яна павінна быць на месцы, дома, пакуль іх могуць яшчэ перахапіць».

Праўда, усё канчаецца даволі шчасліва. Але шчаслівая развязка складанай і выключна драматычнай сітуацыі ўспрымаецца літаральна як цуд, верагодны, псіхалагічна добра матываваны сутыкненнем розных характараў, моцных пачуццяў, тэндэнцый і імкненняў, аднак усё ж цуд. Зразумела, ён адбыўся не сам сабою. Яго зрабіла маці, яе амаль бязмежная вытрымка, яе чалавечнасць, любоў і самаахвярнасць. Але і без гэтага цуда высакароднасць, прывабнасць і сіла характару маці заявілі аб сабе досыць моцна і пэўна. Яны выявіліся ўжо ў тым, што ў рашаючую хвіліну жанчына ішла на смерць, думаючы зусім не аб сабе, а толькі аб дзецях, аб другіх людзях, таварышах па жыццю і барацьбе. І пісьменнік здолеў пераканаўча паказаць, што для Корзуніхі гэткі крок быў не толькі натуральным, але і адзіна магчымым.

А ўвогуле трэба сказаць, што эпізоды, прысвечаныя як быццам сціпламу і на першы погляд не вельмі значнаму, а на самой справе вялікаму подзвігу жанчыны-маці, якая згаджалася ахвяраваць сабой, ратуючы іншых,—належаць да лепшых, найбольш прачулых і хвалюючых старонак рамана.

Выключную цеплыню і пяшчотнасць апавяданню пра маці надае і тое, што аўтар вельмі часта глядзіць на яе вачыма Толіка, у якіх свеціцца трапяткая сыноўняя любоў, кідаючы своеасаблівы водсвет на ўсё аблічча жанчыны, на яе дзеянні і ўчынкі.

Адна з аўтарскіх удач і вобраз Віктара. Асабліва запамінаецца вельмі дакладна напісаны апошні паядынак гэтага валявога бескампраміснага хлопца з немцамі і паліцэйскімі.

І ўсё ж пісьменнік залішне жорстка абыйшоўся з Віктарам, калі, накіраваўшы яго ў паліцыю для падпольнай работы, прымусіў не толькі

*) **Аляксандр Адамовіч.** Вайна пад стрэхамі. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск. 1960. (На рускай мове).

